Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 11 (99) | Вільня, 28-га жніўня 1936 г. | Год 4-ты.

## Неабходнасьць зямельнае рэформы.

III.

### Коопэрацыйнае землякарыстаньне.

У папярэднім нумары „Роднага Краю" мы разглядзелі дзьве формы земляўладаньня: вясковую і хутарную ды прыйшлі да таго вываду, што ні адна з іх не вырашае зямельнага пытаньня.

Разгледзім-жа цяпер трэцюю форму — так званую коопэрацыйную, якая паводле нас зьяўляецца найбольш адпаведнай пры сучасных гаспадарчых і сацыяльных умовах.

Сутнасьць коопэрацыйнага землякарыстаньня вось у чым:

Пэўная грамада, скажам вёска, застаецца на месцы і вядзе індывідуальную гаспадарку (як і цяпер), пакідаючы кожнаму гаспадару ў індывідуальнае карыстаньне пэўны акрэсьлены, невялікі кусок зямлі (прыкл. ад ¼ да 1 гэктара), а рэшта зямлі ідзе ў коопэратыў як паі. За 1 пайнапрыклад, можа быць прыняты 1 гэктар. На пакіненай для індывідуальнага карыстаньня прысядзібнай зямлі кожны гаспадар гаспадарыць паводле свайго разуменьня, зямлёй-жа, адданай у коопэратыў, загадвае выбраная ўсёю грамадою ўправа ці ўрад, якія могуць запрасіць да сябе (наняць) спэцыяліста-аграднома.

На гэтай коопэрацыйнай зямлі вядзецца гаспадарка ня так, як кожнаму хочацца, а як гэтага вымагае прыняты гаспадарчы плян.

Кожны пайшчык акром сваіх „земляных", так сказаць, паёў павінен унесьці яшчэ і інвэнтарны пай, які складаецца з жывога (коні, каровы, авечкі, сьвіньні і г. д.) і няжывога (плугі, бароны, вазы і г. д.) інвэнтару.

Апрача гэтага кожны пайшчык павінен даць у год азначаны лік праца—дзён. Уськая пры гэтым праца выконваецца агульніцай і акрэсьліваецца пэўнаю лічбаю праца-дзён.

Увесь чысты даход з коопэрацыйнае гаспадаркі ў канцы году дзеліцца паміж пайшчыкамі прапорцыянальна да ўнесеных паёў.

Вось у агульных словах сутнасьць коопэрацыйнага землякарыстаньня.

Якія-ж яно дае выгады?

А вось якія: грамада жыве грамадою—вёскаю ці сялом, як і жыла на сваіх мясцох. Кожны гаспадар мае прысядзібную зямлю на гарод і садок. Мае на свае патрэбы 1-2 каровы, акрэсьлены лік авечак, сьвіней, курэй і г. д. Каня ня трымае, бо-ж утрыманьне каня дорага каштуе. Харчы для выжыўленьня інвэнтару, пакіненага на свае патрэбы, кожны гаспадар атрымлівае па норме з коопэратыву. Коні на зааранье і засеяньне агароду, а такжа для выезду ў патрэбе за вёску таксама атрымоўвае з коопэратыву. Рэштай зямлі, адданай у коопэратыў, загадвае ўправа коопэратыву на чале з аграномам і гаспадарка вядзецца паводле прынятага на агульным сходзе пайшчыкаў пляну. Коопэратыў зразумела можа таксама займацца тым ці іншым відам жывёлагадоўлі, а нават мець свае фабрыкі. Паза паявымі праца-днямі коопэратыў за кожны праца-дзень плаціць ці то адразу па рыначнай, так сказаць, цане, ці паводле пэўнай нормы. Кожны працуючы стала ў коопэратыве атрымоўвае плату паводле прынятых усюды цэнаў. З надвышак з чыста коопэратыўнай гаспадаркі, г. зн., з малочнае гаспадаркі, гадоўлі сьвіней, авечак, даходу з розных фабрыкаў і г. д. коопэратыў робіць розныя палепшаньні коопэратыўнае гаспадаркі, а такжа праводзіць розныя культурныя палепшаньні: будуе народны дом, агульную лазьню, бібліятэку, школы і г. д.

Такім чынам уводзіцца рацыянальная гаспадарка на вёсцы і не разбурваецца гэная вёска як грамада.

Зразумела, што для рэалізацыі такое зямельнае рэформы патрэбна на пачатку выдатная дзяржаўная дапамога.

Але-ж ня меншая дапамога патрэбна і пры кожнай іншай рэформе.

*Эра.*

## Навуковыя стыпэндыі для сялян. дзяцей

Міністар Асьветы выдаў распараджэньне куратарам школьных акругоў у справе помачы ў навуцы сялянскім дзецям.

Пачынаючы ад 1936/37 школьнага году будуць прызнаваны штогод па дзьве стыпэндыі для сялянскіх дзяцей, якія ходзяць у паўшэхную школу. У тых мясцох, дзе воласьці ня маюць належнай маемасьці і знаходзяцца ў цяжкім палажэньні, у прызнаваньні стыпэндыяў будзе памагаць ваяводзкая ўлада.

Вельмі здольным сялянскім дзецям будудь памагаць ня толькі ў сярэдніх школах, але і ў вышэйшых.

Стыпэндыі будуць выдавацца ў разьмеры 600 злотых на год.

## Пачынаецца.

Школьны год, а разам з гэтым згодна з трацыцыяй, так сказаць, пэўнае часткі беларускае прэсы, пачынаецца атака на адзіную ўжо сёньня беларускую гімназію. Атака гэная, як спамятаем, вядзецца безупынна ўжо блізу 10 гадоў. Піонэрам у гэнай агіднай акцыі быў вядомы крыміналіст, які здаецца і цяпер сядзіць на Лукішках, — Валэйша. Пазьней ягоным сьледам пайшоў ня менш вядомы Паўлюкевіч, які, як шчыры «палянафіл», рабіў гэта з »патрыятычнага«, так сказаць, пачуцьця. Але як аказалася ў той-жа самы час гэты »ура-патрыёт« рабіў і другую работу... За Паўлюкевічам пайшла «Сялянская Ніва", «Беларуская Крыніца", „Змаганьне" з рознымі »Працамі" і .Волямі», а на гэты раз ролю змаганскіх .Працаў" пераняла на сябе «Наша Воля" — беларускі незалежны (зразумела ад своеж рэдакцыі) двутыднёвы часапіс.Ува ўсёй гэнай «школьнай» акцыі ўспомненыя асобы і часапісы бьюць па найбольш вялікай мішэні — дырэктару гімназіі гр. Р. Астроўскаму. Беларускае грамадзянства ўжо да гэтага прывыкла, прывыклі бацькі, прывыклі дзеці, прывык урэшце і сам дырэктар Астроўскі.

Не зважаючы на гэта мы з грамадзкага абавязку міма апошняга артыкулу »НашайВолі« дня з 23.VIII г. г. моўчкі прайсьці ня можам з дзьвюх прычынаў:

1. Па стылю артыкул гэны дэконспіруе сваё, так сказаць,»музэйнае» паходжаньне;

2. У артыкуле гэным «Наша Воля» выразна хоча адыграцца на гр. Астроўскім за сваю вялікодную няўдачу з распаўсюджаньнем сваіх сканфіскаваных нумароў пры помачы гімназіяльнае моладзі.

Дзівіць нас толькі наіўнасьць заправілаў .Нашай Волі». Ці-ж яшчэ дагэтуль яны не ўявілі сабе таго, што жывуць ў Польшчы, дзе „маскоўскія", так сказаць, ухваткі, з featured розпага роду паказнымі працэсамі пакуль што яшчэ не практыкуюцца?

Калі «Наша Воля« паклікаецца на прысуд грамадзкага суду,які акрэсьліў »дэмаралізацыяй" тое, што гр. Астроўскі даставаў для корпарацыі «Скарынія» субвэнцыі з дыспозыцыйнага фонду, дык перадусім гэная дэмаралізацыйная дзеяльнасьць Астроўскага ня спынілася і ў сучасны мамэнт; па другое, субвэнцыі даставаныя гр. Астроўскім якраз «дэмаралізуюць» толькі найбольш бедную сялянскую моладзь, якая з гэных стыпэндыяў карыстаецца, а ў абароне якое »Наша Воля« так горача выступае ад імя Беларускага Народу, як яна патэтычна заяўляе, дык ці не прасьцей было-б замест абурэньня гэтаму »Народу« з „Нашае Волі" адмовіцца ад „дэмаралізуючых" стыпэндыяў, а „Нашай Волі" прысьці з дапамогаю якраз усім бедным абяздоленым, пакрыўджаным...

Між іншым якраз „браты" і „таварышы" нашавольскіх заправілаў, ведаючы аб усім гэным, з успомненых „дэмаралізуючых"дапамогаў вельмі ахвотна карыстаюцца.

Мы добра разумеем, што паводле абавязываючай „Нашу Волю" інструкцыі, трэба выкарыстоўваць усе магчымасьці для асягненьня свае мэты, але трэба аднак памятаць, што лёгіка абавязкава для усіх аднолькава. Што „Нашая Воля" магла зьмесьціць артыкул, напісаны ці падыктаваны Луцкевічам або Трэпкаю, бо-ж ён скіраваны супроць Астроўскага, гэта мы разумеем, але, што пры аказіі не дадала таго, што сьвядома памінуў аўтар гэнага артыкулу, то гэтага не разумеем. Ці можа „Наша Воля" кіруецца заўсёды „готтэнтоцкаю мараляй". Калі Астроўскі дастае для беднае моладзі субвэнцыі з дыспозыцыйнага фонду, дык гэта — дэмаралізацыя, а калі *Луцкевіч і Самойла ад 15 гадоў жывуць выключна на субвэнцыі з таго і другога дыспозыцыйных фондаў* дык гэта не дэмаралізацыя?

Грамадзкі Суд закінуў і Луцкевічу і Самойле і Трэпцы карыстаньне з „сум конфідэнцыянальных. „Наша Воля" гэтага якраз у прысудзе і не дачытала.

І ў адным і ў другім выпадку ў вачох аб'ектыўнага наглядчыка „Нашую Волю" не апраўдывае, а толькі больш выразна акрэсьлівае яе сапраўднае аблічча.

Прыпомніла такжа „Наша Воля" і аб выдаленьні з гімназіі разагітаваных камуністамі вучняў, але і тут не дагаварыла, што не Астроўскі да гэтага прычыніўся, а якраз папярэднічкі „Нашае Волі" розныя „Працы" і „Волі" якія, ня маючы ўплыву сярод дарослага насельніцтва, жыруюць выключна на дзецях. Каб ня дырэктар Астроўскі магло тое самае стацца і ў гэтым годзе каля Вялікадня, калі рэдакцыя „Нашае Волі" паўпіхала дзецям сваю сканфіскаваную літэратуру.

Трэба ўрэшце зразумець і „Нашай Волі" і паном Луцкевічам з кумпанамі, што сваімі выступленьнямі яны нічога ня зробяць, бо так бацькі, як і дзеці добра ўжо зразумелі хто з'яўляецца іх сапраўдным абаронцам, а хто лье „кракадзілавы сьлёзы".

Ясна, іх акцыя спрычыняецца ў значнай меры да нішчэньня і так беднага беларускага школьніцтва, але рэжысэрам „Нашай Волі" відаць аб гэта і ходзіць.

Трэба ведаць, што сучасныя абставіны ня вельмі спрыяюць беларускаму школьніцтву, а справа яго далейшага разьвіцьця,асабліва пачатковага школьніцтва, ставіць гр. Астроўскага ў такое палажэньне, пры якім яму цяжка будзе нясьці адказнасьць за выхаваньне моладзі з увагі на дабро Беларускага Народу і Польскае Дзяржавы. Аб гэтым здаецца гр. Астроўскі адкрыта заявіў яшчэ два месяцы таму назад школьным уладам.

Зьмена Куратара не пазволіла гр. Астроўскаму вырашыць гэнае пытаньне канчальна, але думаем, што з прыездам новага Куратара яно стане на парадку дня.

Грам. Астроўскі свае ўзгадаваўчае лініі зразумела ня зьменіць, бо-ж ня хістаецца так, як Луцкевіч ад „Włóczęgów" да „Нашае Волі" і дзеля гэтага магчыма, што мэта „Нашай Волі" можа быць дасягнена.

Але ці гэта спрычыніцца да папулярызацыі „Нашай Волі" сярод Беларускага Народу" — моцна сумляваемся.

## Зьезд народных дзеячоў у Варшаве.

Дн. 23 г.м. адбыўся ў Варшаве зьезд народных дзеячоў б. Сялянскай Партыі(»Stronnictwo Chłopskie») і часткова б. „Вызваленьня", у каторым узяло ўчасьце 300 асоб, рэпрэзэнтуючых польскі народны рух цэнтральных і ўсходніх ваяводзтваў.

Пасьля адчыненьня зьезду старшыня Валерон востра скрытыкаваў дасюлешнюю палітыку народных дзеячоў і падчыркнуў тое, што ў сучасны мамэнт заданьнем народных дзеячоў павінна быць ня толькі барацьба за ўладу, але перадусім імкненьне да падняцьця сялянскага дабрабыту шляхам разьвіцьця коопэрацыі і падняцьця роўня асьвету і сьведамасьці вёскі, бяз каторых пасяганьне сялян на ўладу ніколі ня зьдзейсьніцца.

Далей прамоўца абгаварыў ролю ген. Рыдз-Сьміглага ў палітычным жыцьці Польшчы і сьцьвердзіў неабходнасьць згуртаваньня каля яго асобы ўсяго народу. Словы гэтыя сусьтрэліся з гучнымі аплёдысмэнтамі ўсіх прысутных.

На заканчэньне зьезд прыняў рэзалюцыю, у якой між іншым пастанаўляе:

1) Павадыром народу зьяўляецца ген. Рыдз-Сьміглы і каля яго асобы павінны згуртавацца ўсе сялянскія масы.

Вітос ня ёсьць і ня будзе павадыром народнага руху, бо не ўасабляе сабою вартасьць польскага селяніна.

2) Дзеля таго, што гаспадарчы лад абапёрты на прыватным фабрычным промысьле ня можа вырашыць справу безработцьця і гэтым самым палітычна збанкрутаваў, яго месца павінна заняць нацыяналізацыя фабрычнага і горнага промыслу і пляновая дзяржаўная гаспадарка.

3) Школьны лад у Польшчы павінен быць абапёрты на прынцыпе агульнасьці і здольнасьці, а не каставай прыналежнасьці.

4) У галіне самаўрадовай зьезд уважае, што трэба зьмяніць сучасны выбарны рэгулямін ў грамады на болей просты і правесьці новыя грамадзкія выбары.

## Непарадкі ў СССР.

У Бэрліне атрыманы весткі, што на Украіне адбыліся сур'ёзныя непарадкі з прычыны недахопу спажывецкіх прадуктаў. Асабліва востра прайшлі гэтыя непарадкі ў Палтаве (дзе было забітых 23 чалавека сялян) і ў Харкаве. Вайсковыя страты—нявядамы, але даволі значныя.

Сяляне, якія прыймалі ўчасьце ў непарадках, сасланы ў канцэнтрацыйны лягер. Іх чакае сьмертны прысуд або, у лепшым выпадку, ссылка на поўнач.

Сьледам украінскіх непарадкаў пачаліся галодныя бунты і ў паўдзённа-ўсходніх акругох Расеі.

У Белянску пры Доне некалькі рабочых і сялян напалі на камісара чырвонай арміі, які рэквіраваў фураж і правіянт, і выканалі над ім самасуд.

Пасланыя ў Белянск атрады арыштавалі насельніцтва ўсіх недалёка распаложаных ад гораду вёсак разам з сялянскімі радамі, а 18 чалавек, якія аказалі сапраціўленьне, былі расстраляны.

У сяло Зелецкае пры Дняпры прыбыў чырвонаармейскі атрад, каб арыштаваць сялян, якія аказалі сапраціўленьне пры рэквізыцыі хлеба. Некалькі сот сялян маніліся ўцячы праз Днепр на чаўнох.

Чырвонаармейцы пачалі ў уцякаючых, сярод якіх было шмат кабет і дзяцей, страляць з кулямёта.

Сорак чалавек было забітых, частка ўтапілася ў рацэ.

**Уступайце як сябры ў ТБА**

## СССР— перад важнымі здарэньнямі.

З Масквы паведамляюць аб тым, што Сталін выступіў у радыё з прамовай, скіраванай да чырвонай арміі. Сталін заявіў, што Савецкі Саюз стаіць перад важнымі здарэньнямі. „Кожную мінуту, — сказаў чырвоны дыктатар, — можна чакаць, што вам прыдзецца ахвяраваць сваё жыцьцё, баронячы бацькаўшчыну".

## Паўстаньне ў Альбаніі.

З Афінаў паведамляюць, што ў паўночнай Альбаніі ўспыхнула паўстаньне проціў караля Зогу. Абвешчана ваеннае палажэньне Арыштавана некалькі афіцэраў. Для здушэньня паўстаньня змабілізавана дзьве дывізыі.

## Тэрор у Палестыне.

Некалькі дзён таму назад, арабскія тэрорысты забілі праф. Ерусалімскага ўнівэрсытэту Леві Більлі, у яго ўласным габінэце. Забітаму 39 гадоў.

Недалёка ад Хедэры ў цэнтры Палестыны, 24 г. м. увесь дзень адбываўся ўпорны бой між бандай арабскіх бунтаўшчыкоў і ангельскімі ваеннымі часьцямі. Бой пачаўся нападам на патруль. Забітых было 15 арабаў.

Бурмістр Тэль-Авіву Дзізэнгоф выступіў з адкрытым пісьмом да ангельскага ўраду, у якім робіць закіды палестынскай адміністрацыі ў тым, што яна дапусьціла да анархіі ў краі. Далей Дзізэнгоф цьвердзіць, што Палестынай фактычна кіруюць арабы і тэрорысты, а не вярхоўны камісар.

## На гішпанскім фронце

Упорны бой разіграўся каля Гвадэлюпы.

Паўстанцкія атрады раптоўнай атакай занялі горад і пасьля крывавага бою выбілі адтуль праціўніка.

Паўстанцкі штаб у Бургосе атрымаў афіцыяльнае паведамленьне аб заняцьці Гвадэлюпы.

—·—

Недахоп спажывецкіх прыпасаў у Мадрыцэ ўсьцяж расьце.

Выданы спэцыяльныя распараджэньні дзеля барацьбы з спэкуляцыяй спажывецкімі прадуктамі. У працягу ўчарашняга дня арыштавана 200 купцоў і гандляроў, якія абвінавачваюцца ў спэкуляцыі прадуктамі першай неабходнасьці.

Насельніцтва ў Мадрыцэ перажывае цяжкія дні. Апошнія налёты паўстанцкіх бомбавозаў выклікалі перапалох сярод насяленьня.

—·—

Учора былі арыштаваны палкоўнік Лёпэц і яго два сына афіцэры, якія маніліся перайсьці на бок паўстанцаў, а таксама скарбнік аднэй з ваенных часьцяў, у каторага былі знойдзены сьцягі нямецкі і гішпанска-каралеўскі.

Усе яны расстраляны.

—·—

У часе вобыску мадрыцкага памяшчэньня генэрала Франко былі знойдзены сэнсацыйныя дакумэнты. У сувязі з гэтым пачаліся шматлікія арышты.

Урад выключыў са складу флёту чатырох віцэ-адміралаў, 6 контр-адміралаў, 52 капітана, 36 лейтэнантаў і 4 палкоўнікаў марской пяхоты, а са складу арміі 23 палкоўнікаў, 33 падпалкоўнікаў, 10 маёраў і 15 капітанаў.

Арыштаваных будзе судзіць створаны нядаўна асобы трыбунал, бо яны абвінавачваюцца ў падрыхтоўцы паўстаньня.

—·—

Ген. Кэйпо дэ Ліано паведамляе, што нацыянальныя войскі занялі большую частку раёну Рыо Цінго.

На гвадаррамскім фронце ген. Мольле захапіў ўсе вадаправодныя артэрыі Мадрыту, але, маючы на ўвазе мірнае насельніцтва сталіцы, не пакінуў яе без вады.

—·—

З Лёндану паведамляюць, што ўчора паўстанцы захапілі Малягу.

Пасьля заняцьця гораду на некаторых вуліцах яшчэ некалькі гадзін трывалі бойкі паўстанцаў з разьбітымі групамі праціўніка, якія не пасьпелі адступіць.

Значная часьць гораду ахоплена пажарам, бо адступаючыя запалілі цэлы рад будынкаў.

Захоп паўстанцамі Малягі вырашае пытаньне аб транспарце паўстанцкіх войскаў на працягу ўсей часьці паўдзённага фронту і гэта перамога дае паўстанцам ключ да ўсей паўдзённай Гішпаніі. Дапушчаюць, што цяпер паўстанцы павядуць энэргічнае наступленьне на Толедо, дзе ўрадовымі войскамі акружана афіцэрская школа, якая перайшла на бок паўстанцаў.

Галоўную ўвагу паўстанцкае камандаваньне зварочвае на Сэн-Сэбасьціян і Овіедо, дзе ўрадовыя войскі дасюль з пасьпехам атакуюць паўстанцаў.

У Мадрыцэ, у сувязі з пасьпехамі паўстанцкіх войскаў, палажэньне лічаць безнадзейным.

—·—

Камандзір Овіедо паведаміў па радыё паўстанцкага ген. Ліано, што палажэньне яго трагічнае, і калі хутка ня прыбудзе абяцаная помач, дык ён будзе змушаны скапітуляваць.

—·—

Француская газэта „Эко дэ Парі" паведамляе, што на кіруючыя становішчы ў Мадрыцэ і Барсэлёне назначаюцца камуністычныя эмісары не-гішпанцы. Кантроль над чыгункам ў Барсэлёне знаходзіцца ў руках савецкага чыноўніка Броскага. Вялікую ўладу ў Мадрыцэ мае адзін з нямецкіх камуністаў—Фішэр Найман.

## XI Олімпіада ў Бэрліне.

16 г. м. скончыліся спартовыя выпераднкі на XI олімпіадзе ў Бэрліне. У заканчэньні олімпіады прыймаў ўчасьце Гітлер, нямецкі ўрад і дыплёматычны корпус.

Вынікі гэтай сапраўды колёсальнай сусьветнай імпрэзы наступныя:

1) Нямеччына атрымала —175 пунктаў; 2) Амэрыка —124; 3) Італія — 47; 4) Фінляндыя — 39; 5) Францыя — 39; 6) Вэнгрыя — 37; 7) Швэцыя — 35; 8) Японія — 34; 9) Голяндыя — 30; 10) Англія—29; 11) Аўстрыя — 27; 12) Швайцарыя — 26; 13) Чэхаславачына — 19; 14) Канада—14; 15) Аргэнтына—15; 16) Эстонія —13; 17) Норвэгія—11; 18) Эгіпет — 10; 19) Польшча —9; 20) Данія — 7; 21) Турцыя — 4; 22) Індыя—3; 23) Н. Зеляндыя—3; 24) Латвія — 3; 25) Мэксыка — 3; 26) Югаславія—2; 27) Румынія—2; 28) Паўдз. Афрыка — 2; 29) Бэльгія — 2; 30) Аўстрыя — 1; 31) Філіпіны — 1; 32) Партугалія — 1.

Іншыя дзяржавы пунктаў не атрымалі. Пунктацыя адбылася наступна: за залатую мэдаль лічылася 3 пункты, за сярэбраную 2 і за бронзавую 1 пункт,

## Англія—Францыя.

Агенства Стэфані паведамляе з Парыжу, што некаторыя ангельскія газэты, абгаварываючы справу ўнутранага палажэньня Францыі, выказваюць тэндэнцыю Англіі ў напрамку магчыма далейшага адыходу ад Францыі. Апошняя гэтым вельмі ўстрывожана, бо частка ангельскіх газэт падчыркнула нават тое, што ў прыпадку, калі Францыя станецца камуністычнай дзяржавай, вядомы сказ Бальдвіна, што граніца Англіі знаходзіцца каля Рэйну, страціць сваю сілу.

## Вайна ў Кітаі.

Хоць мірныя перагаворы ў Шанхаі ўсьцяж трываюць, аднак войскі Квансі ізноў заатакавалі паўдзённа-заходнюю частку Квангі Тунгу і занялі некалькі гарадоў. Войскі Кванг-Сі зьбліжаюцца да Па-Хоі, імкнучыся да мора.

У горадзе Чэнбу (прав. Чэчуан) адбылася бурная антыяпонская дэманстрацыя, у якой прыймала ўчасьце больш 2000 кітайцаў. Разбураны японскі ўнівэрсальны магазын. Страты 100.000 даляраў. Забіта 2 японцы, 1 ранены і 1 прапаў бяз весткі.

## Ізноў абісынскія „бандыты".

З Рыму паведамляюць, што група з 1200 абісынскіх бандытаў манілася падыйсьці да сталіцы Адзіс-Абэбы з паўдня. Банда, заатакаваная эрытрэйскімі войскамі, адступіла, пакінуўшы 200 забітых. Страты сярод італьянцаў наступныя: 15 забітых і 40 раненых.

## Кароль Альфонс XIII.

У Вене ходзяць чуткі, што б. кароль Альфонс XIII намераны выехаць у Гішпанію. Ён мае, быццам, прыбыць туды на самалёце з амэрыканскім лётчыкам Котрардам.

## Японцы не перасьцерагаюць граніцы.

За апошні час даецца заўважыць вялікая колькасьць, непарасьцераганьняў савецкай граніцы японскімі самалётамі.

Толькі за час ад 14 да 23 жніўня г. г. зацемлена 5 выпадкаў пералёту японскіх самалётаў з тэрыторыі Манджу-Го на тэрыторыю СССР. Палпрэдству СССР у Токіо і генэральнаму консулю ў Харбіне даручана заявіць пратэсты проціў гэтых незаконных пералётаў праз граніцу СССР.

## Шахт у Парыжы.

Прэзыдэнт Францускага Банку Лябэйры прыняў абедам Шахта, на каторым былі прысутнымі прэм'ер Блюм, мін. замежных справаў Дэльбос і іншыя выдатныя палітычныя і фінансавыя дзеячы.

Шахт уручыў прэм'еру Блюму пісьмо Гітлера, у каторым апошні запэўняе, што павялічэньне вайсковай павіннасьці ў Нямеччыне не скіравана проціў Францыі.

Ген. сэкрэтар камуністычнай партыі Торрэз зьвярнуўся з пісьмом да прэм'ера, у каторым выяўляе зьдзіўленьне, што Блюм, як прадстаўнік францускай дэмакратыі прыймаў учасьце ў візыце аднаго з самых злосных ворагаў Францыі.

У сваім адказе Торрэзу Блюм кажа, што асягненьне міжнароднага даверру зьяўляецца адным з самых важных дзейнікаў узмацненьня міру.

Прыезд Шахта ў Парыж меў на мэце наладжаньня гандлёвых адносінаў між Францыяй і Нямеччынай.

## З усяго сьвету.

— *У Флямор'е* (*Бэльгія*) у сувязі з сабраньнем рэксыстаў здарылася крывавая бойка між камуністамі і фашыстамі. 3 рэксысты ранены.

— *Італьянскі ўрад* абвесьціў набор дабравольцаў для свайй арміі ў Абісыніі. Кантракт заключаецца на 2 гады.

— *Швэцкая пошта* дала ў мінулым годзе дзяржаве чысты даход ў 20 мільёнаў крон (каля 80 мільёнаў франкаў).

— На 30 чэрвеня г. г. лічба рабочых, запісаных у *страхавальнях Нямеччыны*, асягнула 17.700 тысячаў чалавек. У параўнаньні з 30. V. 1933 г. лічба застрахованых павялічылася на 6.200.123 чал.

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: М. ШЧАСТНЫ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.